# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС
СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА
БУДАЎНІЦТВА
С-ГАСПАДАРКІ



№ 17

СЬНЕЖАНЬ
1930

ВЫДАНЬНЕ
НАРКАМЗЕМУ
БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ
БССР

# АРГАНІЗАТАРАМ І ЗБОРШЧЫКАМ ПАДПІСКІ, ЧЫТАЧОМ І ПАДПІСЧЫКАМ

газэты „Беларуская вёска“ і часопісяй: „Шляхі калектывізацыі“, „Паляўнічы Беларусі“ і „Каапэрацыя Беларусі“.

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Беларуская вёска“ просіць

## УСЮ ПАДПІСКУ ЗДАВАЦЬ ВЫКЛЮЧНА НА СВАЮ ПОШТУ,

а не пасылаць грашовых пераводаў у адрас Выдавецтва альбо паасобна рэдакцыі газэты і часопісяй.

Здача падпіскі на сваю пошту гарантуе сваячасовую і акуратную дастаўку газэт і часопісяй падпісчыкам.

Падпіска павінна здавацца не пазьней 28 чысла напярэдадні падпіснога месяца.

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 17 (22) | Сьнежань | 1930 г.


## БЫЦЬ НАПАГАТОВЕ

„НІ АДНЭЙ ПЯДЗІ ЧУЖОЙ ЗЯМЛІ НЯ ХОЧАМ, АЛЕ І СВАЁЙ ЗЯМЛІ, НІ АДНАГО ВЯРШКА НЕ АДДАДЗІМ НІКОМУ“.

*(Сталін).*

## АГЛЯД ВАЕННАЙ РАБОТЫ Ў КАЛГАСАХ

**Усім райкалгассаюзам і праўленьням калгасаў**

ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Рабочая кляса СССР, калгасьнікі, батракі і бядняцка-серадняцкія масы сялянства павінны быць гатовы ў любы момант адбіць напад на краіну будуючую сацыялізм. XVI зьезд партыі са ўсёй рашучасьцю ўказаў на неабходнасьць яшчэ большага згрупаваньня ўвагі партыі і мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства на ўзмацненьне абароназдольнасьці СССР.

Гэта важнейшая дырэктыва партыі надзвычайна недастаткова выконваецца ў галіне разгортваньня ваеннай работы на сяле.

Калгасаў, зьвярнуўшых увагу ваеннай рабоце і сумеўшых падняць яе на належную вышыню, налічваецца пакуль нямнога, пагэтаму неабходна ў даны момант прыняць меры к таму, каб паставіць ваенную работу на належную вышыню ва ўсіх калгасах.

Для таго, каб прыкаваць увагу калгасьнікаў і калгаснай сыстэмы к пытаньням абароны і ваеннай работы, для таго, каб паказаць і падцягнуць адстаючыя, рэдакцыя газэты „На страже“, сумесна з цэнтральным саветам Асоавіяхім, праводзіць з 15 лістапада 1930 г. па 23 лютага 1931 г. абгляд ваеннай работы ў калгасах з прысуджэньнем прэміі за лепшае яе правядзеньне.

Праўленьне Калгасцэнтру СССР надаючы вялікае значэньне гэтаму абгляду, прапануе вам прыняць самы актыўны ўдзел у гэтай працы.

Практычна неабходна:

1) Зьвязацца з райсаветамі і ячэйкамі Асоавіяхіма на мясцох, намеціўшы канкрэтныя мерапрыемствы ўдзелу кожнага калгасу ў абглядзе.

2) Выдзяліць з складу работнікаў райкалгассаюзу спэцыяльнага таварыша для дапамогі калгасу ў правядзеньні абгляду, для сувязі з штабам абгляду і рэдакцыяй „На страже“.

3) Ускласьці на аднаго з членаў праўленьня калгасу абавязкі па кіраўніцтву гэтай працай і для дапамогі ячэйцы Асоавіяхіма ў правядзеньні абгляду.

4) Выдзяліць магчымую колькасьць сродкаў з культурных фондаў калгасаў на арганізацыю і правядзеньне ваеннай работы ў калгасах.

5) Аказаць усямернае садзейнічаньне ячэйцы Асоавіяхіма ў арганізацыі ваеннай работы шляхам выдзяленьня памяшканьняў пад ваенкуткі, абсталяваньня стралковых ціраў, выдзяленьня спэцыяльных ваенных дней (раз у дзесяціднёўку, у асаблівасьці для пераменьнікаў-калгасьнікаў і г. д.).

Неабходна дабіцца, каб ваенная работа ў калгасах да 13-й гадавіны Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі была ўзьнята на належную вышыню.

Умовы абгляду аб'яўлены ў газэце „На страже“, № 111, ад 15 лістапада 1930 г.

Старшыня Праўленьня Калгасцэнтру СССР *Юркін.*

**Узмацнім абароназдольнасьць краіны саветаў.**

**Дамо рашучы адпор міжнародным інтэрвэнтам.**

# РАЗГАРНУЦЬ РАБОТУ З БЕДНАТОЙ

**БАТРАЦТВА, БЕДНАТА, КАЛГАСЬНІКІ— АПОРА САВЕЦКАЕ ЎЛАДЫ І ЗАСТРЭЛЬШЧЫКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ Ў ВЁСЦЫ.**

**РАЗГОРНЕМ РАБОТУ ПА СУЦЭЛЬНАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ І НА ГЭТАЙ АСНОВЕ ЛІКВІДУЕМ КУЛАЦТВА ЯК КЛЯСУ.**

Вельмі часта з боку апартуністых розных масьцей можна чуць паклёп на калгасную і некалгасную беднату. Правыя апартуністыя— гэта прамыя агенты кулацтва—вельмі часта гавораць аб беднаце языком клясавага ворага—кулака. Ад іх можна чуць гутаркі аб тым, што беднякі—гэта гультаі, ня хочуць працаваць, што беднякі глядзяць на савецкую дзяржаву, як на дойную карову і г. д.

Вядома, што гэткія гутаркі ёсьць ня што іншае, як самая звычайная правакацыя з боку кулацтва, правакацыя, якой так ахвотна вераць апартуністыя. Мэта гэтай правакацыі заключаецца ў тым, каб пасварыць беднату з серадняком у калгасах, каб падарваць знутры калгасны рух і каб такім чынам паслабіць сацыялістычны наступ на ўсіх фронтах.

На самай-жа справе роля беднаты ў сучасны пэрыяд калгаснага руху ня менш важна, чым два-тры гады таму назад, калі толькі падрыхтоўваўся масавы калгасны рух. Ня трэба забываць, што і ў асноўнай форме калгаснага будаўніцтва—„**у арцелі не завяршаецца, а толькі пачынаецца** справа стварэньня новай грамадзкай дысцыпліны, справа абучэньня сялян сацыялістычнаму будаўніцтву“ (з рэзалюцыі XVI зьезду партыі). Гэта значыць, што для аграмаднай большасьці цяперашніх калгасаў патрэбна вялікая работа па перадзелцы дробнаўласьніцкай прыроды селяніна-калгасьніка і па пераходу саміх калгасаў на вышэйшую ступень калгаснага будаўніцтва. Трэба заўсёды памятаць указаньні XVI зьезду партыі аб тым, што „**кулак яшчэ не дабіты і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне пераможнаму руху калектывізацыі**“. І што „**ліквідацыя кулацтва, як клясы, патрабуе доўгага і ўпартага змаганьня з кулаком, сыстэматычнае работы над правядзеньнем калектывізацыі і павінна разгортвацца ў поўнай адпаведнасьці з ажыцьцяўленьнем суцэльнай калектывізацыі і як яе неадлучная частка**“ (з рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б).

Ясная справа, што партыя зможа выращыць гэтыя вялікія задачы апіраючыся, перш за ўсё, на вясковую беднату. Бедната і ў далейшым павінна заставацца застрэльшчыкам у калгасным будаўніцтве. На працягу застаўшыхся трох год пяцігодкі трэба ў асноўным дабіцца суцэльнай калектывізацыі ўсёй сельскай гаспадаркі СССР. Гэта значыць, што на працягу трох год трэба калектывізаваць каля 19 мільёнаў аднаасобных сялянскіх гаспадарак. Ясная справа, што бяз правільна пастаўленай работы з беднатой, без выкарыстаньня беднаты ў якасьці вядучай сілы ў калгасным руху скончыць калектывізацыю сельскай гаспадаркі СССР к канцу пяцігодкі будзе немагчыма.

У рашэньнях XVI зьезду партыі гаворыцца аб неабходнасьці ўзмацненьня работы груп беднаты ў першапачатковых формах калгасаў з тым, каб апіраючыся на беднату, можна было-б забясьпечыць пераход прасьцейшых аб'яднаньняў на вышэйшую ступень калектывізацыі і каб разам з тым забясьпечыць абарону інтарэсаў беднаты ў калгасах. Практычна гэтае рашэньне абавязвае партыйныя арганізацыі, ва ўсіх таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі, а таксама шмат у якіх арцелях, дзе ёсьць небясьпека кулацкага ўплыву,—стварыць групы беднаты.

Як павінны работаць групы беднаты?

Перш за ўсё, трэба недапушчаць, як гаварыў т. Якаўлеў у сваім дакладзе на XVI зьезьдзе партыі, таго, каб група беднаты ў калгасе абярнулася „ў калектыўнага дырэктара",—гэта значыць, каб група беднаты падмяняла сабою праўленьне ці агульны сход калгасу. Трэба таксама змагацца супроць таго, каб група беднаты не абярнулася ў камісію разьмеркаваньня прамтавараў ці даходаў калгасу і г. д.

Група беднаты павінна накіраваць сваю ўвагу на ўмацаваньне калгасу. Бедната павінна паказаць прыклад лепшай арганізацыі гаспадаркі, яна павінна быць застрэльшчыкам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, быць праваднікам новых калектыўных форм працы, наглядным прыкладам працоўнай дысцыпліны, яна павінна на кожным кроку біць па кулацкіх плётках аб гультаях, закладваць моцныя асновы грамадзкай спайкі.

Неабходна, каб кожная група беднаты падрабязна прапрацоўвала такія пытаньні, як вытворчы плян калгасу, плян капітальных затрат па калгасу, плян разьмеркаваньня даходаў калгасу, плян арганізацыі культурна-бытавой работы ў калгасе, спосабы арганізацыі і аплаты працы і г. д. Прапрацоўваючы вытворчы плян калгасу, трэба асабліва вялікую ўвагу зьвярнуць на разьвіцьцё жывёлагадоўчых і сыр'явых галін у гаспадарцы: на лепшае выкананьне агра-і заомінімуму. Вельмі сур'ёзна, дасканала трэба заняцца групам беднаты пытаньнямі сацыялістычнага спаборніцтва, а таксама сустрэчнага прамфінпляну, па якому маецца на ўвазе найбольш поўна выкарыстаць маючыяся ў калгасе сродкі вытворчасьці, з мэтай далейшага пашырэньня засеўных плошчаў, разгортваньня жывёлагадоўлі, і іншых галін. Інакш кажучы, група беднаты ў калгасе павінна быць застрэльшчыкам у справе пашырэньня і ўзмацненьня калектыўнай гаспадаркі.

Гэту аграмадную работу група беднаты павінна праводзіць у цесным саюзе з серадняками. У сувязі з размахам калектывізацыі і паваротам на калектыўны шлях шырокіх серадняцкіх мас, калгасьнік-серадняк з саюзьніка абярнуўся ў апору Савецкай улады. Тым больш бедната павінна не запірацца ад серадняка, а ўцягваць яго ў сваю работу, шляхам працягненьня сераднякоў на кіруючую работу ў калгасы, шляхам высоўваньня сераднякоў у брыгады і г. д. Усякае камандваньне серадняком, усялякае дзёрганьне серадняка нічога добрага ня дасьць. Таму свае рашэньні група беднаты павінна праводзіць толькі сумесна з усёй масай членаў калгасу. Гэта важнейшая ўмова правільнай работы калгасных груп беднаты.

Зусім зразумела, што калгасныя групы беднаты павінны весьці работу са ўсёй вясковай беднатой, у тым ліку і з беднякамі-аднаасобнікамі. Першай справай калгаснай групы беднаты—увязка з групамі беднаты пры сельсаветах і каапэрацыйных аб'яднаньнях. Калгасная група беднаты павінна выкарыстаць увесь свой уплыў на прыцягненьне

ў калгас аднаасобнікаў з беднякоў і серадня коў. Інакш кажучы, калгасная група беднаты, павінна **па сапраўднаму ўзяцца за справу арганізацыі новага масавага прыліву ў калгасы.** А гэта магчыма зрабіць толькі тады, калі калгасная беднатa будзе весьці работу сярод некалгаснай беднаты і серадня коў супроць кулака.

Барацьба за калектывізацыю шырачэзных мас беднаты і серадня коў і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі патрабуе, перш за ўсё, сыстэматычнай работы з беднатой. Пагэтаму трэба павесьці шырокую арганізацыйную работу сярод беднаты не ўвайшоўшай у калгасы. Калгасьнікі, па прыкладу прамысловых рабочых, павінны стварацы спэцыяльныя брыгады для работы сярод аднаасобнікаў. Гэтыя брыгады павінны зьвязацца ў першую чаргу з беднатой, павінны стварацы з аднаасобнікаў ініцыятыўныя групы па стварэньню калгасу. Перад бедняком і серадняком-аднаасобнікам трэба сумець найбольш проста і наглядна паказаць перавагі калгаснай арганізацыі гаспадаркі, на канкрэтных прыкладах разьмеркаваньня даходаў у калгасе. Вядомая рэч, нельга ў той-жа час хаваць недахопаў, выкрытых у калгасе,—гэтыя недахопы трэба ўскрываць са ўсёй сілай бальшавіцкай самакрытыкі.

Трэба стварыць адзіны фронт некалгаснай беднаты з калгасьнікамі за пасьпяховае выкананьне плянаў калгаснага будаўніцтва і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі; за ўстанаўленьне такога саюзу з серадняком, які-б забясьпечыў-бы выкананьне гэтых задач з магчыма большым посьпехам.

Асабліва вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на работу груп беднаты пры сельсаветах. Сельсаветы зьяўляюцца кіруючымі органамі калектывізацыі вёскі. Група беднаты пры сельсавеце, складзеная з беднякоў-калгасьнікаў і беднякоў-аднаасобнікаў, павінна стаць баявым штабам па калектывізацыі вёскі, па арганізацыі новага прыліву ў калгасы і па барацьбе з заклятым клясавым ворагам—кулаком.

Калгасны рух у сучасны момант уступіў на новы этап. У мінулым годзе мы ўпяршыню дабіліся аграмадных посьпехаў у справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Але гэта зусім нязнача, што цяпер мы можам спакойна разьлічваць на самацёк.

Зараз, як ніколі, трэба ўзяцца за арганізацыю вясковых працоўных мас і ў першую чаргу бядняцкіх мас на барацьбу за сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі і ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Партыйныя арганізацыі з бальшавіцкай няпрымірымасьцю павінны весьці рашучую барацьбу з агэнтамі кулака—правымі апартуністымі і „левымі“ загібшчыкамі.

„Задача састаіць у тым, каб працягваць і надалей няпрымірымую барацьбу на два фронты, як з „левымі“, прадстаўляючымі дробнабуржуазны радыкалізм, так і з правымі, прадстаўляючымі дробнабуржуазны лібэралізм. Задача састаіць у тым, каб працягваць і надалей няпрымірымую барацьбу з тымі прымірэнчымі элемэнтамі ў партыі, якія не разумеюць альбо робяць від, што не разумеюць неабходнасьці рашучай барацьбы на два фронты“. (Сталін на XVI зьезьдзе партыі).

Толькі такім шляхам мы зможам арганізаваць новую магутную хвалю ў калгасным руху і канчаткова разьбіць, зьнішчыць кулацтва **як клясу.**

# КАЛГАСЫ
# І ПЕРАВЫБАРЫ САВЕТАЎ

„Уперадзе пойдуць саўгасы, як станавы хрэбет перабудовы старога ўкладу вёскі. За імі пацягнуцца шматлікія калгасы, як апорныя пункты новага руху ў вёсцы. Злучаная работа гэтых дзьвёх сыстэм створыць умовы для поўнай калектывізацыі ўсіх вобласьцяй СССР“

(Сталін. Палітсправаздача ЦК XVI Зьезду партыі).

Справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў у гэтым годзе будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, па ўсяму шырока разгорнутаму фронту сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, далейшай калектывізацыі асноўных мас сялянства, ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, уздыму тэмпаў правядзеньня палітычна-гаспадарчай кампаніі на вёсцы, поўнай рэалізацыі адозвы ЦК УсеКП(б), непрымірымай барацьбы з правым апартунізмам і іх „левацкім“ блёкам. Разам з гэтым, кампанія перавыбараў будзе праходзіць пры ўсё ўзрастаючай ваеннай небясьпецы з боку капіталістычных краін, шукаючых выхаду з эканамічнага крызісу, ахапіўшага новыя краіны і новыя галіны вытворчасьці (за выключэньнем ваеннай), у падрыхтоўцы да ўзброенага нападу на СССР.

Вялізарная роля калгасаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва павінна асабліва актыўна і падрыхтавана выявіцца ў час правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў. Барацьба за стварэньне моцных органаў пралетарскай дыктатуры—саветаў, здольных у сучасных, досыць складаных умовах ажыцьцяўляць мерапрыемствы партыі і савецкай улады—павінна заняць у працы калгасаў галоўнае месца. Абараняць інтарэсы батрацтва, беднаты, калгасьнікаў і надалей замацоўваць саюз бедняка з серадняком супроць кулака, пашыраць і замацоўваць калгасы—зможа толькі той склад саветаў, які будзе абраны з клясава-вытрыманых і стойкіх працаўнікоў, усьвядоміўшых задачы сучаснага рэконструкцыйнага пэрыяду.

Удзел калгасьнікаў, калгасьніц у падрыхтоўцы кандыдатур у саветы і другія выбарчыя органы—сельсуды, рэўкамісіі, упаўнаважаныя—павінен быць самы актыўны.

Ацэнка дзейнасьці саветаў за справаздачны тэрмін павінна праходзіць пад кутом погляду, наколькі той, ці іншы савет і паасобныя працаўнікі саветаў здолелі ў сваёй практычнай працы праводзіць клясавую лінію, наколькі яны ахапілі ўсе працэсы сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі, наколькі яны выконвалі палітычна-гаспадарчыя кампаніі і давалі жорсткі адпор клясава-варожым элемэнтам, і, наколькі яны ва ўсёй гэтай рабоце апіраліся на батрацкія, бядняцкія і калгасныя масы і ўмацоўвалі іх саюз з серадняком. Калгасы павінны дапамагчы раённым і сельскім выбарчым камісіям у распрацоўцы наказу, арганізацыі ходу выбараў і дачы арганізаванага адпору розным спробам кулацка-нэпманаўскай часткі і іх прыхільнікам—пазбаўленцам розных колераў.

Побач з гэтым калгасьнікамі не павінна быць выпушчана з поля дзейнасьці работа па арганізацыі сацспаборніцтва, ударніцтва, выка-

наньня прамфінпляну і чарговых гаспадарчых кампаній. Там, дзе справаздачна-выбарчыя вучасткі будуць вызначаны ў калгасах, патрэбна ў іх добра прыстасаваць і абсталяваць памяшканьні і арганізаваць справу так, каб яна праходзіла пры найбольш спрыяючых умовах пасьпяховасьці выбараў, як-та: павялічэньне процанту яўкі выбаршчыкаў, абарона бядняцка-батрацкіх і калгасьніцкіх кандыдатур, адпор кулацтву і г. д.

Нам вядома з вопыту мінулых гадоў і асабліва ў час частковых перавыбараў саветаў 1930 г., што варожыя элемэнты будуць арганізоўвацца і па маючымся зьвесткам ужо арганізоўваюцца з мэтаю кампрамэгаваць дзейнасьць саветаў наогул і асабліва ў калгасным будаўніцтве, а таксама будуць ганьбіць усю ідэю калгаснага руху, саміх калгасьнікаў і намечаныя батрацка-бядняцкія кандыдатуры ў саветы. Калгасам, у час правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі неабходна выйсьці з абмежаванасьці, шырока папулярызаваць маючыяся ў іх дасягненьні ў галіне ўзьняцьця вытворчасьці працы ў калгасах па ўсіх галінах. Яўка калгасьнікаў на перавыбарчыя сходы павінна быць арганізавана з максымальным процантам удзельнікаў, асабліва жанчын, з пэўнаю думкаю ў адносінах абароны батрацка-бядняцкіх, калгасных і лепшых серадняцкіх кандыдатур у саветы. Намячаемыя кандыдатуры павінны быць вядомы калгасьнікам загадзя і ўсебакова абгаворааны калгасьнікамі.

У справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў патрэбна яшчэ больш папулярызаваць ідэю калгаснага руху і ўмацаваць саюз батрацтва, бедпаты і калгасьнікаў адзінаасобнымі беднякамі і серадня-камі. Ігнараваньне камісіямі ці ўпаўнаважанымі крытыкі працы саветаў, альбо высоўваемых у новы склад саветаў кандыдатур ці іншых запатрабаваньняў, з боку адзінаасобнікаў—беднякоў і серадняко́ў будзе шкодным як для працы калгасаў, так і саветаў.

Усім такім спробам неабходна з самага пачатку даваць рашучы адпор.

Зразумела, мы ня можам дазволіць нашым клясавым ворагам сваёй крытыкай падмяняць нашу самакрытыку. Усякім імкненьням чуждых сацыялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў, пад знакам крытыкі, ганьбіць дзейнасьць саветаў з мэтаю кампрамэтацыі, або змазваньня ролі саветаў і калгасаў у сацыялістычным будаўніцтве, калгасьнікі сумесна з батрацка-бядняцкімі і серадняцкімі масамі вёскі павінны даць жорсткі адпор.

Камісіям, брыгадам, упаўнаважаным з дапамогаю калгасьнікў, пры практычным правядзеньні перавыбараў неабходна выявіць і зьвязацца з батрацка-бядняцкім і серадняцкім ядром у тых вёсках і паселішчах, дзе па розным прычынам развальваліся калгасы, а ініцыятары і актывістыя заставаліся ў паасобку. Выявіўшы такім чынам у час справаздачна-выбарчай работы гэты актыў, падтрымаць яго, у далейшым дапамагчы яму згуртаваць асноўную масу сялянства ў напрамку стварэньня новых калгасаў.

Пры правядзеньні справаздачна-выбарчай кампаніі саветаў гэтага году ня выключана магчымасьць паяўленьня „тэорыі“ прыхільнікаў асуджанай (Дацэнка-Рахага) ліквідацыі сельсаветаў і перадачы іх функцый праўленьням калгасаў, што ў мінулую справаздачна-выбарчую кампанію мела месца. Здавалася-б, што калі ўжо прышла пара адміраньня сельскіх саветаў, то гэтае пытаньне павінна было-б паўстаць перш за ўсё ў рабочых паселішчах, якіх маецца шмат у Ленінградзкай

Маскоўскай абласьцях. Аднак, і там ніхто ня ўзьнімаў пытаньня аб перадачы функцый сельскіх саветаў фабзаўмясцкомам. Саветы, як органы пралетарскай дыктатуры ў гэтых паселішчах працуюць, растуць, зьяўляючыся неад'емлемай і вельмі важнай часткай усёй сыстэмы дыктатуры пралетарыяту.

Партыя з усёй рашучасьцю дала адпор такім „тэорыям“: т. Кагановіч у арганізацыйнай справаздачы ЦК на XVI зьезьдзе партыі казаў, што такі погляд ёсьць вынік адміраньня бальшавіцкай ідэолёгіі ў гэтых „тэорытыкаў“, а ў пастанове ЦВК Саюзу ССР ад 21-V—30 г. па гэтаму пытаньню адзначана наступнае: „Усе спробы ліквідаваць сельсаветы, аслабіць, або зьнізіць іх кіруючую ролю ў сувязі з масавай калектывізацыяй як у адкрытай, так і ў замаскаванай форме, шляхам перадачы праў сельсаветаў праўленьням калгасаў—усе гэтыя спробы зьяўляюцца па сутнасьці антысавецкімі і адлюстроўваюць настроі нашых клясавых ворагаў, якія імкнуцца падарваць дыктатуру пралетарыяту і аслабіць сілу яго органаў. Падобныя ліквідацыйныя імкненьні павінны атрымаць самы рашучы і бязьлітасны адпор“.

Аб гэтых пастановах як пры перавыбарах саветаў, так і далейшай працы трэба добра памятаць.

Таксама нельга не сказаць і аб тым, што некаторыя сельскія саветы ў час справаздачна-выбарчай кампаніі паспрабуюць падмяніць сабою самастойную палітычна-гаспадарчую адзінку—калгасы, іх дзейнасьць і пратварыць гэтым у вачох насельніцтва калгас не як самастойную вытворчую ячэйку, а частку савету. Такая пастаноўка таксама шкодная. Калгасам патрэбна памагаць у арганізацыі працы, уздыме вытворчасьці, разьмеркаваньні ўраджаю і г. д., але не камандаваць і не падмяняць сельсаветам праўленьняў калгасаў.

Толькі згуртаваўшы вакол партыі і саветаў усю энэргію рабочае клясы, батрацка-бядняцкіх, калгасных і серадняцкіх мас вёскі, магчыма пасьпяхова вырашыць задачы справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў. Вынікі перавыбараў павінны яшчэ больш забясьпечыць кіруючую ролю пралетарыяту ў саветах, узмацніць абароназдольнасьць краіны, стварыць моцныя органы пралетарскай дыктатуры—саветы, здольныя пасьпяхова вырашаць задачы трэцяга году пяцігодкі ва ўсіх галінах.

Праводзячы ў жыцьцё ў час выбараў лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, даваць руйнуючы адпор варожым элемэнтам нэпману: ў горадзе, кулаку на вёсцы і яго агентуры—правым апортуністым з іх права-„левацкім“ блёкам.

**Мікуліч.**

**У час перавыбараў узмоцнім рабочымі, батракамі, беднатой і калгасьнікамі органы пралетарскай дыктатуры—Саветы. Высунем на работу ў Саветы адданых змагароў сацыялістычнага фронту—рабочых-ударнікаў.**



# Чырвона-штандартная

НАРЫС ЯНКІ ШКАДАРЭВІЧА

Хто яны, гэтыя шчасьліўцы, што атрымалі пераходны Чырвоны Сьцяг ад ЦВК БССР. Хто яны?

Яны—камунары. Камуна іх знаходзіцца недалёка ад мястэчку Ельск. Імя ёй—„Праца“. І не здарма далі камуне такую назву. Тут сапраўды па-новаму, па-сацыялістычнаму кіпіць работа.

Мы пад'яжджаем да камуны. Здалёку чуем гул трактара, што працуе на камунарскіх палёх. Чуецца стукат сякер, шастаньне пілак—гэта камунары заканчваюць пабудову вялікай новай сталоўкі. Уваходзім на двор камуны. Нас сустракаюць камунары. Яны ветлівыя людзі і рады, калі да іх прыяжджаюць.

**Пашкевіч Павел**—старшыня камуны. Няўстаны барацьбіт за новую сацыялістычную гаспадарку. Камуністы, у 1924 годзе быў накіраваны сюды для ўзмацненьня камуны. Ён абводзіць нас па кватэрах камунараў.

— Паглядзеце, як жывуць у нас камунары.

Ён вядзе нас на пчалярную пасеку, дзе рухлівай рукой пчаляра **Рыхлевіча** сёлета пчолы далі каля паўтары тону мёду. Ён паказвае белых, ангельскай пароды „іоркшырскіх“ сьвіней. Ён раскажа вам, што мае зараз камуна, чаго яна дасягнула.

Вось красуюцца на дварэ новыя дамы. Іх пабудавалі ўласнымі рукамі за мінулыя два гады. Адзін дом — глінабітны, на 4 кватэры па 2 пакоі ў кожнай. А вось той, што стаіць побач, таксама на 4 кватэры па 3 пакоі для кожнай сям'і. Люба глянуць на дамы камунараў. Ашчыкатураныя, пабеленыя, зробленыя з гліны і ламачча, пакрытыя чарапіцай. Дамы вабяць да сябе кожнага.




Пераходны сьцяг ад ЦВК БССР за бальшавіцкае правядзеньне вясеньняй сяўбы камуне „Праца“.

— Дзерава трэба шанаваць, лесу ў нас малавата,—кажуць камунары—таму мы і будуем глінабітныя дамы.

Дом з гліны і ламачча не баіцца агню. Ён і таньней



Старшыня камуны „Праца“ тав. Пашкевіч.

каштуе, у ім і цёпла і прыгожа. Камунары самі робяць чарапіцу. Пабудавалі сваю цагельню. З наступнага году будуць будаваць вялікі двухпавярховы дом ня менш, як на 20 сямей. Цэглу ўжо набылі.

— У нашай камуне робіцца ўсё па пляну. Кожны камунар ведае для каго і што ён робіць, за што адказвае,—гаворыць тав. **Пашкевіч**.

Хто ня ведае ў камуне „Праца“ старога **Брэкмана Аўгуста?** Яго ведае тут кожны, як руплівага камунара, які ўдзень і ўначы тупае каля жывёлы, даглядае цялят і кароў. Па нацыянальнасьці ён—латыш. Служыў калісьці ў памешчыка Анзельмана. Пра сваё мінулае Аўгуст безахвотна расказвае:

— Мне ўжо 75 год. Памешчык Анзельман, у якога я працаваў, дастаў з мяне духі. Ня раз панская нагайка гуляла па маёй сьпіне. А за што? Толькі за тое, што я працаваў ад цямна да цямна, выбіваўся з сіл. Бывала прысядзеш крыху, а панскія лёкаі з крыкам, „ну, чаго сеў, што падвярэдзіўся ўжо? Ух, ты ла-а-а-тыш“—і тут-жа нагайкай па сьпіне. Часта прыходзілася плакаць на свой лёс, на такое марнае жыцьцё.

Затое з вялікай ахвотай расказвае ён пра сваё жыцьцё ў камуне.

— Жыву тут у камуне з 1922 году. Тады тут нічога ня было. Пан пакінуў нам адны голыя сьцены. Быў адзін дом, хлеў ды сьвіронак. Ні сельска-гаспадарчых машын, ні коняй—нічога ня было. Але мы, былыя батракі, дружна ўзяліся за працу.

Пабудавалі дамы, купілі і коняй, і кароў, шмат сельска-гаспадарчых машын. У камуне я адчуваю сябе поўным гаспадаром. Стары я ўжо, але нейкія новыя сілы зьявіліся ў мяне. Здаецца, я буду жыць яшчэ дзесяткі год. Ня прымушаюць мяне тут працаваць, але я прывык працаваць, не магу сядзець, злажыўшы рукі. Надта люблю жывёлу даглядаю яе. Дапамагаю маладым нашым жывёлаводам, вучу іх, як трэба гадаваць жывёлу.



Ударнікі камуны „Праца“. Зьлева направа—**Аксючыц**, Брэкман Ліла, **Брэкман, Кісельчук**.

Яго саракагадовы сын Алекс Брэкман з сваёй сямёй таксама тут у камуне. У камуне выконвае розныя абавязкі па паляводзтву. Добра адносіцца да працы! Ён—сябра камуністычнай партыі, лепшы камунар-ударнік.

А вось вядомы на ўсю ваколіцу камунар-пчаляр **Станіслаў Міхайлавіч Рыхлевіч**. Яму—73 гады. Па нацыянальнасьці—паляк.

— Гэта стары гадамі, але малады духам чалавек, энтузыясты,—так кажуць пра яго камунары.

На пчалярнай пасецы ў 1928 годзе ў камуне нічога ня было. Пасьля купілі 10 калод. З гэтага і пачалася праца. У мінулым годзе прывезьлі 34 **пустых** рамовых вульляў. Але Рыхлевіч не здарма 45 гадоў быў пчаляром, не здарма вучыўся ён у вядомага пчаляра Лявіцкага—першага ў Расіі вынаходцы рамовых вульляў.

Камунар Рыхлевіч прымусіў сваіх пчол даваць за лета з аднаго вульля па 3-5 раёў.

— За едэн рок запэлніл я вшыстцы клоды. Было тылько дзесеньць клуд, а я ўмнажылам за една лята на 34 клуды,—кажа на сваёй роднай мове пчаляр Рыхлевіч.

Ён скардзіцца на сваю старасьць:

— Ежэлі-б я был млоды, я-б дал камуне ешчэ венцэй.

Зараз пасека камуны „Праца“ мае 45 вульляў. У паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках пчолы памерзьлі, бо было кепскае, халоднае, лета. А ў камуне ўсе пчолы здаровыя і далі да паўтары тоны мёду.

Сваёю пасекай ганарацца камунары. А пчаляр **Рыхлевіч** прасіў:

— Будзеце пісаць пра нашу пасеку, дык абавязкова напішэце ў газэту „Правда“, каб усе людзі чыталі. Пацікаўцеся на Ўсебеларускай Выстаўцы Сельскае Гаспадаркі і Прамысловасьці, што кажуць людзі пра зроблены мною вулей. Я з таго вульля за адно лета зьбіраў 7-8 пудоў мёду.

Зроблены камунарам-пчаляром **Рыхлевічам** вулей заслугоўвае выключнай увагі.



Навапабудаваныя дамы камунараў.

А вось **Карнеевіч Арцём.** Па нацыянальнасьці—беларус. Ён апавядае:

— Бацькі—батракі. Я працаваў 22 гады ў памешчыка Левандоўскага. У час імпэрыялістычнай вайны папаў у палон да немцаў, дзе прабыў 4 гады. У Нямеччыне прыглядзеўся, як гаспадарыць і зараз у камуне прыстасоўваю набытыя веды. Шмат працы, але дружнай работай усе цяжкасьці перамагаем.

Аўгуст Брэкман, Станіслаў Рыхлевіч, Арцём Карнеевіч—усе яны барацьбіты за новую, буйную сацыялістычную гаспадарку. А такіх, як яны, у камуне шмат. Тут жывуць і яўрэі (дзьве сям'і), латышы (тры), немцы (дзьве), украінцы (чатыры), палякі (тры), чэхаў (тры) і беларусы (19), а ўсяго 35 сямей розных нацыянальнасьцяй.

— У камуне „Праца" жывы інтэрнацыянал народаў,—так кажуць у мястэчку Ельск.

— У нас няма падзелу на нацыі, у нас толькі ёсьць клясавы прынцып,—кажуць камунары.

І сапраўды, жыцьцё ў камуне „Праца" яшчэ раз пацьвярджае, што толькі камуністычная партыя правільна вырашае нацыянальнае пытаньне.

Тут у камуне людзі розных нацыянальнасьцяй, а як адзін, дружна змагаюцца за ўсё большыя і большыя ўраджаі і добрую жывёлу. Яны сёлета па ўдарнаму правялі вясеньнюю сяўбу, асеньнюю, а таксама ўборачную кампанію. Ім трэба было засеяць: 40 *га* аўса, 15 *га* бульбы, 20 *га* грэчкі, 2 *га* лубіну на насеньне, 40 *га* канюшыны, 2 *га* проса, 2 *га* кармовых буракоў, 2 *га* капусты і 2 *га* сталовай гародніны. Людзей-жа ў камуне 38 мужчын, 28 жанчын—гэта ўся рабочая сіла. Коняй 27, трактараў ня было. Трэба было панатужыцца, каб пасьпяхова скончыць вясеньнюю сяўбу. Былі створаны ўдарныя брыгады. Камуна „Праца" выклікала на сацыялістычнае спаборніцтва калгас „Уперад", Нараўлянскага раёну і камуну „Авангард"—Калінкавіцкага раёну. І па-новаму, па-сацыялістычнаму запрацавалі камунары. Яны засеялі 70 *га* аўса, 20 *га* бульбы, 25 *га* грэчкі і г. д. Плян вясеньняй сяўбы перавыканалі на 45 проц. У параўнаньні з мінулым годам



У камуне жывуць людзі розных нацыянальнасьцяй. Зьлева направа—беларус, яўрэй, паляк, украінец, латыш.

пасеўная плошча яравога кліну пашырана на 365 проц., плошча пад кармавыя травы—на 34 проц.

У гэтым годзе камунары раскарчавалі і паднялі залежаў 19 *га.* Правялі мэліарацыю на 79 *га.*

Камунары ведаюць, што трэба зрабіць для падвышэньня ўраджайнасьці. На іх палёх няма шкодных расьлін, бо тут шырока ўжываецца зяблевае ворыва. Тут поўнасьцю ачышчаецца насеньне перад сяўбой на трыеры, а пасьля пратручваецца фармалінам. Тут сеюць выключна гатунковым насеньнем: жыта—пяткуцкае, авёс—„залаты дождж“. Папар засяваецца вікай, лубінам і толькі частка поля гуляе ў чорным выглядзе. На камунарскіх палёх вясной гэтага году было расьсеяна 500 пудоў попелу (пад бульбу), 150 пуд. супэрфасфату, 150 пуд. касьцянай мукі, 250 пудоў—фасфарытнай мукі. Тут для падвышэньня ўраджайнасьці скарыстаны ўсе адкіды з раённай бойні і г. д.



Пчалавод тав. Рыхлевіч.

— Прападала капуста ад засухі. Рубам паўстала пытаньне: што рабіць, як захаваць агарод. І выхад быў знойдзены. На чыгуначнай станцыі мястэчку Ельск стаялі поўныя скрыні „начнога золата“. Яго перавезьлі ў бочках, разбавілі вадой, а пасьля пачалі паліваць капусту. І зазелянелі зноў пажоўклыя лісты, агарод стаў выглядаць надзіва—расказваюць камунары.

А вось яшчэ факты змаганьня камунараў за ўраджай. На капусту напала вусень. Нібы чорная хмара паўзла яна на гароды і пакрыла сабою ўсё лісьце. У момант былі створаны ўдарныя брыгады. Рукамі абіралі вусень, палівалі парыскай зелянінай, тутунёвым экстрактам—і капуста ўцалела.

— У нашых суседзяў-адзінаасобнікаў капуста сёлета прапала дашчэнту—вусень зьела. А ў нас капуста—люба глянуць. Адна галоўка важыць 8-9 кілё (25 фунтаў).

У камуне ўжываецца лушчэньне іржышча і канюшынішча. Севазварот—васьміпалёвы. Яго ўвялі з 1925 году.

### Зямля пакарылася камунарам

Усе ўведзеныя мерапрыемствы спрыяюць падвышэньню ўраджайнасьці ў камуне. Ураджайнасьць па збожжавых культурах, у параўнаньні з мінулым годам, павялічылася на 33 проц., а па культурных травах—на 25 проц.

А якія-ж ураджаі ў камуне?

— Мабыць не паверыце, калі скажу, што гектар жыта даў у сярэднім 22 цэнтнэры (130 пуд.), а ёсьць і шмат такіх гектараў, ураджай з якіх—29 цэнтнэраў (175 пуд).

— 175 пудоў ураджаю жыта на Палесьсі?! Дык гэта-ж Украіна!

— А так яно і ёсьць,—кажа т. Пашкевіч і палявод Аксючыц. Яны толькі дадаюць, што ня ўсюды такія ўраджаі. У іхных суседзяў—пасялкоўцаў-аднаасобнікаў гектар жыта дае ня больш 40—45 пудоў. І гэта лічыцца ў іх за добры ўраджай. У камуне бульба з гектару сёлета дала ў сярэднім 220 цэнтнэраў (1.300 пуд.), у той час як у адзінаасобнікаў беднякоў і серадняков бульбы з гектара сабрана ня больш 300—350 пудоў.

— А ў 1928 годзе з бульбай выйшла „непаразуменьне": з гектара сабралі яе па 2.500 пудоў. І калі напісалі пра нашы ўраджаі ў акругу, дык там не паверылі. Былі створаны спэцыяльныя камісіі. Уся аграномія паўстала на ногі, правяралі ўраджаі ў камуне,—расказваюць камунары.

**Як жывуць камунары і што дае камуна пралетарскай дзяржаве**

А камунарка Асіпчук Моця не нацешыцца з дзіцячых ясьляў. У яе трое дзяцей: аднаму—5 год, другому—2, трэцяму—7 месяцаў. Дзеці—у ясьлях і дзіцячай пляцоўцы. Гэта і радуе камунарку Моцю. Яна вольная ад дзяцей, яна дэлегатка. І Кісяльчук Мар'я і Агата Карнеевіч таксама задаволены жыцьцём у камуне.

— У камуне ня ведаем ні „Піліпаўкі", ні посту. Ёсьць што зьесьці—хапае і людзям.

— Наша камуна сёлета, паводле пляну кантрактацыі, павінна была здаць 140 цэнтн. аўса, 20 цэнтн. вікі, 75 цэнтн. капусты, 600 цэнтн. бульбы і шмат іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў. Але гэты плян далёка перавыканан ужо. Бульбы адгруджана нашым пралетарскім цэнтрам 1.100 цэнтн. і ў бліжэйшыя дні яшчэ будзе адгруджана да 500 цэнтн. Капусты здадзена—43 тоны, жыта трэба было абмяняць 140 цэнтн., а абмянялі 164. Закантрактавалі поўны ўдой малака ад 60 кароў і здаем яго ў малочную арцель. Здалі нядаўна 18 сьвіней і яшчэ 80 здамо. Усіх сьвіней у камуне больш 200, а ў наступным годзе будзе ня менш 500 штук,—кажа камунарка Казінцова Ганна. Яна—дэлегатка і сябра праўленьня камуны. Зараз яна падала заяву аб прыёме ў партыю.

— Па даудз лаба дзівэ.

Гэта на латыскай мове. А на беларускай—„у камуне лепш жывецца" І беларус, і паляк, і яўрэй, і латыш, і украінец тое-ж самае кажуць.



Пасека камуны „Праца".

Так сказалі камунары, што жывуць у камуне „Праца“. Гэта бачаць паасобныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. Вясною гэтага году да камуны далучыліся пасёлкі „Банларка“ з 14 бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі. У мінулым годзе далучыўся да камуны калгас „Новае жыцьцё“ з васьмі сямей.

Зараз у камуне жыве: 25 батракоў, 1 рабочы, 30 беднякоў, 14 сераднякоў.

Яны калектыўна апрацоўваюць 545 *га* зямлі. Яны асілілі палескую зямлю, прымусілі яе даваць добрыя ўраджаі.



Камунаркі ліквідуюць сваю няпісьменнасьць.

За сваю сумленную, дружную працу, за бальшавіцкае правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі камунары атрымалі пераходны Чырвоны сьцяг і трактар „Красный Путиловец“.

Па-ленінскаму шляху пайшлі былыя батракі маёнтку „Каралін“ памешчыка Анзельмана. Яны зараз—вольныя камунары чырвонасьцяжнай камуны „Праца“. Яны высока трымаюць заваёваны пераходны Чырвоны сьцяг. Ганарацца ім.

Камунары маюць права ганарыцца!

Камуна „Праца“, Каралінскі раён.
Кастрычнік, 1930 г.

**Інтэрнацыянальнае зьяднаньне працоўных мас—сіла, аб якую разаб‘ецца фронт сусьветнай рэакцыі. Няхай жыве адзінства працоўных усіх нацыянальнасьцяй.**

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

> ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА.
>
> *(Сталін).*

## ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ КАЛГАСА „НАДЗЕЯ“

*(Брагінскі раён)*

7-га жніўня калгас „Надзея“ сьвяткаваў свой 10-гадовы юбілей. На ўрачысты вечар для прывітаньня калгаса зьявіліся прадстаўнікі раённых, партыйных, савецкіх, камсамольскіх, прафсаюзных, каапэрацыйных арганізацый, Азэт, бліжэйшыя калгасы і аднаасобнікі. З вялікім дакладам аб праробленай працы калгаса на працягу 10 год існаваньня выступіў старшыня калгасу Міцяўская і з успамінкамі, у якіх абставінах арганізаваўся калгас, выступіў стары калгасьнік т. Райхман.

Гісторыя калгасу наступная.

Калгас зьяўляецца нацыянальным яўрэйскім (толькі з вясны гэтага году ў калгас уліўся бліжні пасёлак выключна беларусоў, які інтэрнацыяналізуецца). У 1920 г. паблізу Брагіна ў 4 вёрстах арганізаваўся гэты калгас у быўш. маёнтку памешчыка, дзе апрача голых сьцен нічога не засталося. Далей, у с.-г. арцель запісалася 65 яўрэйскіх сямей, але з увядзеньнем Нэп'у 35 сямей адліваецца з арцелі. У тым-жа годзе палову валавога ўраджаю калгасьнікі аддалі галадаючым Паваложжа.

У 1922 годзе ў раёне, б. павеце, бушуе бандытызм, калгасьнікі прымушаны на поле выходзіць са зброяй, але яшчэ не перасяляліся з мястэчку ў калгас. З 1922 году пачаліся першыя пераходы ў с.-г. арцель, паступова адбываецца абагульваньне жывога і мёртвага інвэнтара. С.-г. арцель з 1922 года вядзе 9-палёвы севазварот з увядзеньнем травасеяньня і сеў робіць сартовым насеньнем, утварае пасадку пладовых дрэў. У 1924 г. арганізоўвае малочную фэрму і вырашчвае племянны маладняк. У 1924 г. с.-г. арцель мела.

| | Буйн. жывёлы | Маладняку | Пасеўн. плошча |
|---|---|---|---|
| | 12 шт. | — | 1928 г.—114,5 га |
| 1925 г. | 20 „ | 4 шт. | 1929 г.—126,5 „ |
| 1926 г. | 35 „ | 6 „ | 1930 г.—190,75 „ |
| 1927 г. | 46 „ | 11 „ | |
| 1928 г. | 55 „ | 13 „ | |
| 1929 г. | 60 „ | 27 „ | |
| 1930 г. | 65 „ | 54 „ | |

Пасяўная плошча павялічвалася за лік раскарчоўкі і папару.

З замацаваньнем магутнасьці калгаса замацоўваецца і фінансавы дабрабыт калгасьнікаў, напрыклад, сярэдні заработак калгасьніка складаў:

| | |
|---|---|
| 1924 г.—60 к. | 1927 г.—70 к. |
| 1925 г.—37,5 к. | 1928 г.—1 р. 25 к. |
| 1926 г.—60 к. | 1929 г.—1 р. 35 к. |
| | 1930 г.—1 р. 60 к. |

На непрацаздольных адлічвалася з 1928 г. па пастанове агульнага сходу: у 1928 г. па 3 руб., у 1929 г.—6 р.

Валавы прыбытак калгасу наступны:

У 1927 г. склад. 30.338 руб.
„ 1928 г. „ 36.005 „
„ 1929 г. „ 54.971 „

Пачынаючы з 1925 г. с.-г. арцель мае племяных сьвіней, і снабжае бліжэйшыя арцелі племянымі сьвінаматкамі і вытворцамі.



Калгасьнікі калгаса „Надзея".

На раённых і акружных с.-г. выстаўках арцель прэміравалася, за малочную і сьвінаводную гаспадаркі, рэчамі і пахвальнымі лістамі. На Ўсебеларускай выстаўцы нацменшасьцяй 1927 г. прэміравалася дыплёмам.

У красавіку 1928 г. арцель дастае трактар, кваліфікуе сваіх сяброў арцелі трактарнаму, сыраварна-масладзельнаму рамяству. У арцелі зусім няма наёмнай прац. сілы, за выключэньнем страднай пары, на абмалот і ўборку збожжа. З 1929 г. арцель на час палявых работ арганізоўвае грамадзкае харчаваньне. У 1929 г. сад, за якім быў добры догляд, даў прыбытку звыш 10.000 руб. С.-г. арцель будуе 3 дамы для жылых памяшканьняў.

Трэба адзначыць, што ўсю сваю прадукцыю с.-г. арцель рэалізуе праз с.-г. каапэрацыю; арцель адкармлівае сьвіней і здае дзяржаве па контрактацыі і наогул усю сваю с.-г. прадукцыю арцель здае па контрактацыйных дагаварох.

С.-г. арцель „Надзея“ зьяўляецца прыкладам у нашым раёне для новых калгасаў і як факт можа служыць тое, што ў гэтым сельсавеце (які зьяўляецца па сваёй тэрыторыі большым у раёне) амаль ва ўсіх вёсках арганізаваліся калгасы і ў самы калгас уліліся беларусы. Відавочна, на вачох усяго насельніцтва арцельшчыкі давялі, што яны ўмеюць гаспадарыць і што лінія партыі ў вырашэньні нацпытаньня правільная і перавод яўрэйскага насельніцтва на цьвёрды грунт сельскай гаспадаркі сябе апраўдаў.

Калгас мае свой клюб, радыё, дзіцячую пляцоўку, піонэрскі атрад. У дзень сьвяткаваньня 10-годзьдзя калгасьнікі адказалі масавым уступленьнем у камсамол. Кіраўнік калгасу (старшыня) Міляўская 45-гадовая жанчына ўступіла ў партыю. У дзень сьвяткаваньня калгасьнікі падпісаліся на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“. Тут-жа разгарнулася сацспаборніцтва: хто падпісаўся на 5-тыднёвы, 4-тыднёвы, менш 2-тыднёвага заробку ня было, што складае ўсёй пазыкі 870 руб. і выклікалі суседні калгас „Беларус“.

**Пароцкі Е.**

# Што атрымалі калгасьнікі за сваю працу

*(Халопеніцкі раён)*

Калгас „Камінтэрн“ арганізаваўся ў студзені 1930 году. Спачатку ўвайшла ў калгас уся вёска ў ліку 31 гаспадаркі, але вясною заможная частка вышла, думаючы, што застаўшаяся бедната і маломоцныя серадня́кі нічога бяз іх ня зробяць. Але дарма. Застаўшыяся 21 бядняцка-серадняцкая гаспадарка не паддалася на кулацкую эгітацыю і розную хлусьню. Шчыра ўзяліся будаваць калектыўнае жыцьцё. З посьпехам правялі вясеньнюю сяўбу, уборку і васеньнюю сяўбу.

У выніку ўсёй працы калгасьнікі атрымалі наступнае: аўса гатунковага пасеяна 14 *га*, ураджай па 11 цэнтн. усяго 154 цэнтн. па 7 р. 95 к. за цэнт. на суму 1.224 р. 30 к.; аўса звычайнага 15 *га* па 9 цэнт., усяго 135 цэнтн. па 7 р. 65 к. на суму 1.032 р. 75 к.; ячменю 14 *га*, ураджай па 12 цэнтн., усяго 168 цэнтн. па 7 р. 65 к. на суму 1.285 р. 20 к.; бульбы 11 *га*, ураджай па 150 цэнтн. усяго 1.650 цэнтн.—з гэтай колькасьці сталовай 1.155 цэнтн. па 3 р. 60 к. цэнтн. на суму 4.158 р., тэхнічнай бульбы 495 цэнтн. па 3 р. 12 к. на суму 1.544 р. 40 к.; канюшыны сабрана 250 цэнтн. па 3 р. 60 к.—900 р.; вікі насеннай 16 цэнт. па 9 р. цэнтн. на суму 144 р.; вікі сена 40 цэнтн. па 3 р. на суму 120 р.; лёну 7 *га* па 2 цэнтн. з *га* ўсяго 14 цэнтн. па 12 р. на суму 168 р., ільна-валокна па 2 цэнтн. з *га* ўсяго 14 цэнтн. па 36 р. на суму 504 р., саломы і мякіны яравой 675 цэнтн. па 1 р. 80 к. на суму 1.215 р. Усяго даходу ад паляводзтва 12.295 р. 65 к.

**Лугаводзтва:**

Сена мурожнага сабрана 834 цэнт. па 3 р. цэнт. на суму 2.502 р.
„ балотнага „ 100 „ „ 2 р. 80 к. „ „ „ 280 р.

Усяго даходу ад лугаводзтва . . 2.782 р.

**Ад жывёлаводзтва.**

Атрымана розных прадуктаў на суму 300 руб.

**Агравытворчыя мерапрыемствы:**

Атрымана за злучку з быком і пракат машын 17 руб.

**Падсобныя заработкі:**

Ад выпрацоўкі дуг атрымана . . . 4.500 р.
„ лесараспрацовак атрымана . . . 729 р. 50 к.
„ падвод атрымана . . . . . . . . 1.098 р. 57 к.

Усяго пабочнага заработку 6.328 р. 07 к.

Усяго валавога даходу ў гаспадарцы калгасу 21.722 р. 72 к.

Акрамя таго сабрана ад кулацкіх пасеваў: жыта 29 цэнт. на суму 250 р., саломы 50 цэнтн. на суму 60 р. Усяго 312 р.

Мы пастанавілі ня вылічваць працоўных дзён на ўборку кулацкага жыта, а прама аднесьці ў недзялімы фонд калгасу.



іанэратрад калгасу „Надзея“.

## Як мы пастанавілі разьмеркаваць прыбытак:

1) Адлічваем ад валавога прыбытку 5 проц. з сумы 21.722 р. 72 к., што складае 1.086 р. 14 к. Гэтую суму падзяляем на абагуленую калгасьнікамі маемасьць, атрымае кожны калгасьнік па 1 р. 12 к.

2) Стварылі насенны фонд з пашырэньнем яравога кліна на 25 проц. супроць гэтага году, што складае суму 1.771 р. 20 к.

3) Кармавы фонд на абагуленую і на набытую жывёлу на суму 4.578 р. 20 к.

4) С.-г. падатак і страхоўка складае 616 р. 25 к.

5) На пагашэньне крэдытаў 613 р. 50 к.

Разам усе выдаткі складаюць суму 8.683 р. 29 к.

Астача 13.039 р. 43 к.

З гэтай астачы адлічваем у непадзельны фонд 10 проц., што складае суму 1.303 р. 90 к., 5 проц. у грамадзкія фонды—651 р. 95 к.

Адміністрацыйна-фінансавыя выдаткі на суму 1.067 р. 10 к.

Амартызацыя маемасьці 312 р. 50 к.

Адлічваем 1 проц. паявога ўзносу ў РКС—130 р. 39 к.

Разам усе адлічэньні складаюць 3.465 р. 84 к.

Астачу ўмоўна-чыстага прыбытку ў суме 9.573 р. 59 к. падзяляем па працоўным дням да 1931 г. і атрымліваем: 1-шы разрад—1 р. 14 к., 2-і разрад—1 р. 43 к., 3-ці разрад—1 р. 71 к., 4-ы—2 р. і 5-ы разрад—2 р. 28 к. У калгасе ўведзена 5-разрадная тарыфная сетка.

Жыта абагуленага ў нас ня было, а ў мінулым годзе засеяна ў паасобным карыстаньні, з якога мы здалі дзяржаве 25 цэнтнэраў.

## Што атрымлівае кожны калгасьнік:

| №№ па чар. | Прозьвішча і імя | Едакоў | Працаздольных | Выпрац. дзён да 1/X—1930 г. | Будзе выпрац. да 1/I—1931 г. | Усяго прац. дзён | Атрым. за маемасьць | Атрым. за працу | Усяго Руб. | Усяго К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ганчаронак Марк . | 6 | 2 | 228 | 40 | 268 | 54—60 | 418—84 | 473 | 49 |
| 2 | Буйвідовіч І. Ф. . | 13 | 9 | 547 | 121 | 668 | 72—48 | 967—75 | 1040 | 23 |
| 3 | Буйвідовіч І. Р. . | 7 | 2 | 166 | 45 | 211 | 75—12 | 323—63 | 398 | 75 |
| 4 | Камоська І. Ф. . . | 8 | 6 | 410 | 40 | 450 | 32—76 | 667—30 | 700 | 06 |
| 5 | Ільлюшонак М. . . | 7 | 2 | 220 | 40 | 260 | 141—36 | 385—50 | 526 | 86 |

і г. д.

Дзяржаве здалі ўсе лішкі яравых культур з перавыкананьнем пляну. Самі мы будзем забясьпечаны цалкам усімі прадуктамі ў дастатковай колькасьці. Мы цяпер упэўніліся, што калектыўная гаспадарка куды больш дае прыбытку чым, паасобная.

**Лазарэнка.**

# На руінах паншчыны новае жыцьцё

*(Полацкі раён)*

Іх прышло дванаццаць у быўшы маёнтак Бела-Мацэйкава (Баярскі сельсавет), у сакавіку 1929 году. Усе беднякі. З дванаццаці гаспадарак і арганізаваўся калгас „Новае Жыцьцё“.

Цяжкі быў шлях калгаса. Тая мізэрная маемасьць, якую прынясьлі калгасьнікі з сабой не магла іх забясьпечыць: было ўсяго толькі 9 кароў і 11 коняй. Інвэнтар амаль адсутнічаў. А вакол калгасу па вёсках лютавала кулацкая агітацыя, розныя варожыя чуткі, плёткі насіліся пра калгас.

Але, ня гледзячы на цяжкасьці і перашкоды калгасьнікі з вялікай стараннасьцю ўзяліся за калектыўную працу. Першую сваю калектыўную працу пачалі ў вясеньнюю сяўбу.

Вясной 1930 году шэрагі калгасьнікаў пачалі папаўняцца. Замест 12 гаспадарак стала 47. З кожным днём узмацнялася і эканамічнае становішча калгасу. Ужо мелі 93 каровы, 33 рабочых коняй і 6 жарабят, акрамя таго аднаго племяннога жарабца, 63 штукі цялят, 23 сьвінаматкі, 52 маладых парасят і 188 авечак.

Вясеньнюю сяўбу калгас „Новае Жыцьцё“ правёў па-бальшавіцку. Вось яе ўзорныя вынікі: 6 гектараў засеяна канюшыны, 43 гект.—аўса, 7—ячменю, 14—бульбы, 15—лёну, 94—вікі, 8—пшаніцы і 4 гект. гародніны.

Скончыўшы вясеньнюю сяўбу калгасьнікі ўпарта пачалі рыхтавацца да ўборкі ўраджаю. Пачалі наладжваць інвэнтар і машыны.

Калі наступіла ўборка калгасьнікі ад цямна да цямна працавалі на палёх. На калгасным полі працавалі з песьнямі ўдарныя брыгады.

Ня гледзячы на раскіданасьць калгаснага поля, недахоп рабочых, дзякуючы стараннай працы,—бальшавіцкаму кіраўніцтву ячэйкі, уборку ўраджаю ўдалося скончыць да 14-га кастрычніка. Перад аднаасобнікамі выступалі з дакладамі аб сваіх дасягненьнях. Аднаасобнікі працу калгасьнікаў прызналі добрай.

У „Дзень калектывізацыі і ўраджаю“ лепшым калгасьнікам ударнікам вызначаны прэміі. Вось яны лепшыя ўдарнікі калгасу „Новае Жыцьцё“: Лашкоў Ільля, Цацэнка Пятрусь, Вялюга Сымон, Вялюга Ксеня, Лашкова Мар‘я, Велікаў Міхась, Лашкоў Адам, Цеплякоў Гаўрыла, Гарачухін Якуб і Курчаў Пятрусь. Гэтыя таварышы апраўдалі назву ўдарнікаў.

Калгас „Новае Жыцьцё“ дабіўся найлепшых паказчыкаў работы ў галіне сіласаваньня кармоў: замест адной сілоснай ямы, вызначанай па пляну, выкапана тры ямы і засіласавана 55 тон кармоў.

У галіне хлебазагатовак калгас таксама значна перавыканаў свае пляны—замест 2 тон жыта па пляну, здадзена тры з паловай тоны.

Пры калгасе „Новае Жыцьцё“ ёсьць свая рыбная арцель, якая ў час пільнай летняй працы калгасьнікаў карміла рыбай і адпраўляла рыбу ў горад.

У калгасе разгорнута вялікае будаўніцтва. Вядзецца пабудова сьвінарніку на 80 матак і птушніка на 4.000 племянных птушак. Калгасьнік Лошкаў Алесь аб‘явіў сябе ўдарнікам па сканчэньні пабудовы

сьвінарніка да першага студзеня 1931 г. З птушнікам справа крыху горш абстаіць. Калгасьнікі дзякуючы сваёй энэргічнай стараннасьці ўвесь неабходны будаўнічы матэрыял нарыхтавалі, але вось няма каменшчыкаў. Але калгасьнікі гэты прарыў спадзяюцца ліквідаваць.

Пры калгасе ёсьць свая пажарная дружына.

Сельскагаспадарчых машын у калгасе пакуль, што мала. Ёсьць малатарня, 12 парных і 8 аднаконных плугоў, адна сенаграбілка, адна сенакасілка і вельмі дрэнная жняярка. Але калгасьнікі духам ня падаюць. У іх ёсьць 11 гектараў саду, сад дае вялікі прыбытак, за які думаюць набыць новыя машыны, трактар.

Скончыўшы летнюю працу на палёх, калгасьнікі прыступілі да зяблевага ворыва: паднята звыш 40 гектараў.

Прыбытак разьмеркаваны паміж калгасьнікамі. Увесь прыбытак калгасу выражаецца ў суме 22.015 руб. так, што на кожную працоўную адзінку прыходзіцца 108 руб.

Правільным разьмеркаваньнем работы паміж паасобных калгасьнікаў, ужываньнем сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва калгас зацікавіў акаляючае насельніцтва, 13 аднаасобнікаў падалі заявы аб уступленьні ў калгас.

**Я. Саўчанка.**

# Арцель мацнее

*(Шклоўскі раён)*

На адлегласьці паўкілёмэтра ад гораду Шклова, у вёсцы Рыжкавічы арганізавалася арцель імя Леніна, якая мае жывёлагадоўчы напрамак.

Арцель аб'яднае 20 гаспадарак і 31 чалавек адзіночак, а ўсяго 117 душ. Зямлі маецца агароднай 21 *га*, пахаці 105 *га*, і 21 *га* сенажаці. Абагуленай жывёлы: кароў 59 шт., коняй 18, маладняку 8 і цялят 15, авец 25, сьвіней 41. Арцель мае ўсе первічныя сельскагаспадарчыя машыны.

Год калектыўнай працы паказаў, што калгасьнікі ня толькі задаволілі сябе ўсімі прадуктамі, якія ў паасобку прыходзілася купляць, але і шмат здалі ў каапэрацыю.

Плян пасеву калгасьнікамі быў выкананы з перавышэньнем: патрэбна было засеяць аўса 22 *га*, засеялі 25 *га* і бульбы скарасьпелкі—10 *га*, засеялі 15 *га*, капусты—2 *га*, засеялі 8 *га*, таксама і іншых культур. Уборачная асеньняя кампанія прашла здавальняюча, недахоп рабочай сілы папаўняўся аднаасобнікамі, якія ішлі працаваць у калгас з ахвотаю.

Убраўшы, калгасьнікі здалі лішкі ў каапэрацыю звыш пляну. Трэба было здаць бульбы 69 тон—здалі 240 тон, капусты—17 тон, а здалі 220 тон, рознай агародніны здалі 150 тон.

На вясеньні час калгасьнікі таксама падрыхтаваліся. Узаралі на зяб 35 *га*.

Калгасьнікі—актыўныя ўдзельнікі сацыялістычнага будаўніцтва, усе падпісаліся на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ на суму 560 руб., што ў сярэднім на кожную душу прыходзіцца 4 р. 60 к.

Пабудавана кузьня, якая абслугоўвае і бліжэйшыя калгасы і бядняцка-серадняцкія гаспадаркі вёскі. Цагляны завод хоць маленькі, але прадукцыю сваю—цэглу адпускае і замежы раёну. Пабудаваны сьвінарнік на 50 матак і хлеў.

Да наступнага году распачата будаўніцтва малочнай мэханізаванай фэрмы на 200 галоў, парніковая гаспадарка на 300 рам.

Аплата ў арцелі па катэгорыям, якіх устаноўлена калгасьнікамі 3. Для мужчын: I кат.—60 руб. у месяц, II кат.—55 руб. і III кат.—50 р. Жанчынам: I кат.—40 руб., II кат.—35 руб. Вучот працы вядзецца па табелю брыгадзірамі. Устаноўлены працоўны дзень 10 гадзін і кожны павінен прапрацаваць у месяц ня менш 26 дзён, каб атрымаць поўную месячную плату, а калі прагуляў, тады вылічваецца згодна атрыманага акладу заробку ў дзень.

Прадуктамі калгасьнікі забясьпечаны і атрымоўваюць па цьвёрдым цэнам каапэрацыі. Улічваецца колькі хто з прадуктаў набраў за месяц, а астатняя сума выдаецца на рукі кожнаму.

Узаемаадносіны з аднаасобнікамі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі добрыя. Управіўшыся з працаю ў калгасе калгасьнікі дапамагалі і аднаасобнікам. А калі калгасьнікам патрэбна была якая дапамога, аднаасобнікі ішлі бяз усялякае платы дапамагаць.

У час сьвяткаваньня 13-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі калгасьнікі зрабілі вечар куды запрошаны былі і бедн.кі і серадн.кі-аднаасобнікі. На гэтым вечары прынята 7 новых беднякоў і серадн.коў ў калгас.

У далейшым арцелі „Ленін“ патрэбна пабудаваць агульную сталоўку, якая дасьць магчымасьць яшчэ больш прадукцыйнай працы. Акрамя гэтага дасьць магчымасьць заняцца культурнай працай у вольны ад працы час. А культпраца пакуль што не на належнай вышыні.

Г. Шумілаў.

# Чаму няма прыліву ў калгас „Пэўны Шлях“

Добрыя ўзаемаадносіны калгасьнікаў з аднаасобнікамі, правільнае разьмеркаваньне ўраджаю, сваячасовая ўборка,—усё гэта разам узятае дае новы прыліў у калгасы.

Калгас „Барацьба“ за апошні час мае прыліву каля 30 гаспадарак. Калгас „Чырвоны Кастрычнік“ за адзін тыдзень прыняў 5 гаспадарак, наогул за летні пэрыяд па Шклоўшчыне прылілося 150 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Чаму калгас „Пэўны Шлях“ ня мае прыліву. Прычына заключаецца ў тым, што там надзвычайна былі нацягнутыя ўзаемаадносіны з адзінаасобнікамі. Некаторыя члены праўленьня калгасу, як Маськоў І. спрабаваў забіраць кароў і коняй аднаасобнікаў у хлеў ужо на скошанай сенажаці і трымаць па поўных сутках.

Маськоў, будучы старшынёй груба зварачваўся з беднякамі і серадняками. Вышаўшы з калгасу Маліноўскі патрабаваў 20 пуд. жыта, якія ён унёс, уступаючы ў калгас. Але прышлося яму чатыры разы

хадзіць у РВК, і нават дайшоў да РСІ пакуль Маськоў зьвярнуў прынесеныя 20 пудоў жыта.

25-га кастрычніка падаў заяву батрак Гайкоў у гэты калгас, але таксама прышлося разоў з дзесятак прыйсьці пакуль прынялі, таму, што мала чаго прынясе.

Вось такія апартуністычныя погляды і грубыя ўзаемаадносіны надзвычайна шкодны і не даюць прыліву ў калгасы. А ў калгасе „Пэўны Шлях“ Маськоў і зьяўляецца такім.

Многія беднякі гавораць, што, каб не Маськоў мы-б пашлі ў калгас. Патрэбна Райкалгассаюзу і рэшце калгасьнікаў вычышчаць з калгасаў шкодны элемэнт, які тармозіць справу калектывізацыі.

Ш. Г.

# Будаўніцтва сьвінарнікаў на Шклоўшчыне

У калгасах Шклоўшчыны па пляну намечана 7 сьвінарнікаў па 100 матак у кожным. На 1-е лістапада 2 сьвінарнікі скончыліся пабудовай, а ў астатніх толькі скончылі зрубы, а ўнутранае будаўніцтва не закончана.

У чым-жа прычына, што калгас „Пэўны Шлях і камуна Молатава скончылі будаўніцтва, а астатнія не.

Прычына заключаецца ў тым, што гэтыя калгасы вылучылі спэцыяльнага чалавека, які адказваў за гэта будаўніцтва. Ён знаходзіў матар'ял і рабочую плотніцкую сілу ў аднаасобных гаспадарках. Сачыў за працаю, выконваючы свой плян па будаўніцтву. Дабіваўся сваячасовай расплаты з гэтымі плотнікамі і г. д. Астатнія калгасы гэтага чалавека ня вылучылі, а сам старшыня ня змог ахапіць усёй кампаніі, таму правалена будаўніцтва.

Зараз недахоп цьвікоў і гонты затармазілі ход хутчэйшага будаўніцтва. Праўда ёсьць настрой у калгасьнікаў, каб ня крыць саломай, таму што патрабуецца шмат саломы.

Дрэнна таксама і тое, што ў раёне пакуль што няма карантыннага пункту, а ён вельмі патрэбен. Зараз шмат сьвіней хварэе на чуму, рожу, а адсадзіць няма куды. Трэба кожнаму калгасу выходзіць з такога становішча і прыстасаваць маленькі свой хлеў спэцыяльна для хворых сьвіней, каб не заразіць усіх.

Ня лепш абстаіць справа з укамплектаваньнем матак. Усяго патрэбна 700 матак, каб укамплектаваць сьвінарнікі, а маецца старых 120 і 488 маладняку і ўсё. Райкаапсаюз і Райкалгассаюз пытаньнем адшуканьня матак яшчэ не заняўся. Патрэбна належная работа, стараньне. А гэтага няма пакуль што ў мясцовых кіраўнікоў.

**Уперад за бальшавіцкія тэмпы будаўніцтва сацыялістычнай індустрыі, за разьвіцьцё саўгасаў і калгасаў.**

# Разгарнуць культурна-масавую працу

У сучасны момант сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі, масавага росту калгасаў і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнае калектывізацыі—надзвычайна вялікае значэньне набывае арганізацыя культурна-масавай працы ў калгасах і саўгасах, узмацненьне палітычнай сьвядомасьці калгасьнікаў і ўзброеньне іх агранамічнымі і тэхнічнымі ведамі. Сацыялістычная сельская гаспадарка, буйны саўгас і калгас патрабуюць поўнага перавыхаваньня людзей, якія да гэтага часу вякамі жылі інтарэсамі свайго двара.

Між тым азнаямленьне з культурна-масавай працай у саўгасах і калгасах паказвае, што праца гэта стаіць далёка не на належнай вышыні. У некаторых калгасах амаль ніякае працы ў гэтым напрамку не вядзецца (калгас „Пабядзіцель“, Бярэзінскага раёну, „Новы Быт“, Крупск. р., саўгас „Бярэзіна“ і г. д.). У лепшым выпадку справа абмяжоўваецца дакладам, выпіскай некалькіх газэт, арганізацыяй лікпункту. У калгасах часта ня існуе нават культкамісіі, якая так ці інакш займалася-б культурнаю працай. Вельмі часта ў калгасах няма ні хаты-чытальні, ні чырвонага кутка, ні бібліятэчкі. Грамадзкія арганізацыі часта зусім адсутнічаюць, а калі і існуюць, дык не працуюць. У калгасы па паўгода не пападаюць кіно-перасоўкі. Адсюль зразумелай становіцца і тая няўвязка, якую мы часамі наглядаем паміж гаспадарчым ростам калгасаў і саўгасаў і культурнай адсталасьцю калгасьнікаў і рабочых саўгасаў. Слабасьць палітычна-выхаваўчае працы зьяўляецца прычынай таго, што ў калгасах часамі маюць месца кулацкія ўплывы, праявы індывідуалістычных імкненьняў і г. д.

На культурна-масавую працу ў калгасах і саўгасах неабходна зьвярнуць надзвычайна вялікую ўвагу, прычым уся культурная праца павінна быць прасякнута палітычным зьместам, на канкрэтных прыкладах, узятых з жыцьця. Палітпрасьвет работа ў калгасах і ў вёсцы павінна праводзіцца такім чынам, каб арганізаваць бядняцка-серадняцкія масы для сацыялістычнага будаўніцтва, для барацьбы з кулаком і ліквідацыі яго як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Асноўнай задачай у калгасах і саўгасах зьяўляецца цяпер ліквідацыя няпісьменнасьці. На гэту справу яшчэ ня зьвернута належнай увагі, навакол яе ня ўсюды створана грамадзкая думка. У паасобных калгасах нават партыйныя ячэйкі не ўдзяляюць належнай увагі ліквідацыі няпісьменнасьці. Сельсаветы ў большасьці сваёй стаяць у баку ад гэтае справы. Тут патрэбен рашучы пераварот усіх раённых арганізацый, сельсаветаў, партыйных і камсамольскіх ячэек для справы ліквідацыі няпісьменнасьці, да стварэньня навакол гэтага пытаньня грамадзкае думкі. Неабходна дабіцца, каб ліквідацыя няпісьменнасьці стала абавязкам кожнага калгасьніка і рабочага ў саўгасе. Лікпункт павінен так арганізаваць работу, каб ён быў і школай перавыхаваньня індывідуальнікаў у сапраўдных калектывістых, сьвядомых будаўнікоў сацыялістычнае гаспадаркі, культуры і быту. У кожным калгасе неабходна безадкладна арганізаваць хату-чытальню, клюб альбо чырвоны куток, які-б быў цэнтрам культурна-масавай працы.

Вялікую ролю ў жыцьці калгасу можа і павінна адыгрываць насьценная газэта, якая пакуль-што сустракаецца як рэдкасьць. Насьценная газэта павінна выкрываць усе адмоўныя бакі ў жыцьці калгасу, паказваць прыклады найлепшай працы і г. д. Неабходна дамагчыся, каб у кожным калгасе і саўгасе арганізаваць гурток селькораў і сьценкораў, якія-б былі вачамі і вушамі калгасаў, сыгналізавалі аб усіх зрывах, недахопах у вядзеньні гаспадарак, аб праявах кулацкіх уплываў, якія часамі маюць месца і г. д. Разам з тым патрэбна дабіцца, каб кожны калгасьнік чытаў газэту і быў у курсе палітычных і гаспадарчых задач.

Праз арганізацыю спэцыяльных гурткоў, арганізацыю папулярных дакладаў, гутарак у калгасах трэба папулярызаваць сярод калгасьнікаў дасягненьні сучаснай навукі і тэхнікі ў галіне сельскай гаспадаркі, азнаёміць з найлепшымі мэтадамі калектыўнае працы.

Ва ўсёй шырыне стаіць пытаньне арганізацыі новага быту. Задача культурных працаўнікоў у калгасах азнаёміць калгасьнікаў з тымі дасягненьнямі, якія ўжо ёсьць у нашай краіне. Мастацкая літаратура і кіно ў гэтых адносінах павінны адыграць вялікую ролю.

Нашы кіно-перасоўкі яшчэ ня выконваюць ускладзеных на іх абавязкаў па перавыхаваньню мас у калгасах (і вёсках): працуюць бяз пляну, даюць гледачу часта бяссэнсныя, а то проста і шкодныя карціны, якія, да рэчы, і паказваюцца нядбайна, без належных тлумачэньняў і г. д. Ад кіно-перасоўкі калгасьнікі патрабуюць, каб яна давала ім адказы на вострыя пытаньні сёньняшняга дня, каб яна мастацкі паказвала, як трэба будаваць новую сацыялістычную гаспадарку, як найлепш арганізаваць працу, наладзіць калектыўны быт і г. д. Апрача таго, калгасьнік патрабуе задавальненьня і сваіх эстэтычных запатрабаваньняў: ён хоча пачуць бадзёрую і прыгожую песьню, добрую частушку, дэклямацыю, убачыць на сцэне выяўленьне сваіх лепшых жаданьняў, імкненьняў да новага радаснага жыцьця.

Наша пэрыядычная літаратура (газэты, часопісы) павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на высьвятленьне становішча культурна-масавае працы ў калгасах і саўгасах і паказаць канкрэтныя прыклады найлепшай яе арганізацыі. Калгасьнікі і рабочыя саўгасаў на старонках „Шляхі калектывізацыі“ і ў газэтах павінны высьвятляць свае дасягненьні і недахопы ў гэтай справе, з тым, каб вопыт лепшых калгасаў і саўгасаў маглі скарыстаць і іншыя калгасы, якія толькі яшчэ арганізоўваюцца і ня маюць ніякага вопыту.

**В. Самцэвіч.**

**Прымежнасьць БССР з капіталістычнымі краінамі патрабуе пільнасьці рабочае клясы, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў да абароны.**

# Пра калійныя ўгнаеньні і іх значэньне для падвышэньня ўраджайнасьці

Мы ўжо адзначалі ў нашым часопісу пра тую ролю, якую адыгрывае пры падвышэньні ўраджайнасьці група фосфарна-кіслых угнаеньняў, як супэрфосфат, фосфарыт і г. д. Галоўны элемэнт гэтых угнаеньняў—фосфар уваходзіць непасрэдна ў складаныя хэмічныя арганічныя злучэньні расьлін і зьяўляецца адной з неабходных частак самой бялковай молекулы. Адсюль вынікае неабходнасьць для гарантыі ўраджаю забясьпечваць нашы палі фосфарна-кіслымі ўгнаеньнямі.

Галоўная матэрыя калійных угнаеньняў—калі ня ўдзельнічае ў хэмічных злучэньнях расьліны непасрэдна, як складаная частка іх, а знаходзіцца пасьля спажываньня расьлінаю ў асобным растворным стане ў ёй, у выглядзе так званых іёнаў. Такая ўласьцівасьць калію дае права думаць, што яго роля ў расьліне іншая, чым усіх іншых элемэнтаў.

Досьледы паказваюць, што бяз калію ня могуць разьвівацца і жыць як вышэйшыя, так і ніжэйшыя расьліны. У той-жа час, як відаць, калі ня можа быць заменен у расьліне ніякімі іншымі матэрыямі, блізкімі да яго па сваіх хэмічных якасьцях. Праўда, у апошнія часы ёсьць даныя ў літаратуры аб тым, што, нібыта, калі часам можа замяняцца натрыем—адной з хэмічных частак звычайнай кухеннай солі,—у прыватнасьці аўтару гэтага артыкулу ў сваіх досьледах, як бачна, самому трапілася сустрэцца з такім фактам, але гэта яшчэ зусім мала высьветлена і апрача таго даныя атрыманы ў такіх умовах, якія значна розьняцца ад палявых.

Наогул-жа зусім ясна агранамічнай навукай даведзена, што пры недахопе калійных угнаеньняў расьліны адчуваюць сябе вельмі дрэнна.

Па той прычыне, што найбольш калію ў тых частках расьліны, якія больш за ўсё асьвятляюцца сонцам, ёсьць думка, што калі зьяўляецца такою матэрыяй, якая адыгрывае значную ролю ў працэсе паглынаньня расьлінаю сонечнай энэргіі.

Гэтую думку можна падмацаваць наступным досьледам з бульбай.

Калі ўзяць аднолькавыя па плошчы дзялянкі з бульбай, дык на дзялянках, няўгноеных каліем, ураджай залежыць ад ліку гадзін ці часу, на працягу якога расьліны бульбы асьвятляліся сонцам. На тых-жа дзялянках, якія ўгнойваліся каліем, ураджай не залежыць ад сонечнага асьвятленьня.

Значыцца, нейкім чынам, які яшчэ навукаю добра ня вывучаны, калі дапамагае расьліне скарыстаць сонечную энэргію пры зацяненьні ці пры пакрытым хмарамі небе. Гэта набывае вельмі вялікае значэньне і асаблівы сэнс пры ўмове беларускага надвор'я, калі нават улетку бываюць цэлыя тыдні хмурнага неба.

Можна ўзяць на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што ў умовах клімату Эўропы, дзе хмарнасьць больш менш правільна нарастае ў напрамку з усходу на захад, патрэбнасьць расьлін у каліі павінна вырастаць у такой-жа тэндэнцыі. Другая справа, што запасы калію ў глебе, бязумоўна, залежаць ад зусім іншых чыньнікаў, чым клімат, які можа рабіць уплыў на гэтыя запасы толькі ўскосна.

Адсюль добра відаць, якую вялікую ролю і месца займае калі ў жыўленьні расьлін і ясна, як неабходныя калійныя ўгнаеньні для падняцьця ўраджайнасьці.

У Нямеччыне, дзе здабываецца звыш 600 мільёнаў пудоў калійных соляй, скарыстоўваецца на ўгнаеньне, улічваючы і тыя краіны куды калі з Нямеччыны вывозіцца, амаль 95 проц. вышэйпамянёнай колькасьці.

Даваенная Расія была краінай, якая амаль усе калійныя ўгнаеньні ўвозіла з Нямеччыны.

У 1918 г. праф. Д. Н. Пранішнікаў запрапанаваў скарыстаць попопел, як калійнае ўгнаеньне.

Ня гледзячы, што з тое пары прайшло шмат часу, гэтую справу поўнага скарыстаньня ўсяго попелу, які атрымліваецца ад апалу, нельга лічыць наладжанай.

**У надыходзячую зіму кожны грамадзянін Савецкага Саюзу павінен памятаць аб важнай ролі попелу, як калійнага ўгнаеньня і захаваць да апошняга граму ўвесь той попел, які ў яго будзе ад апалу, на патрэбы ўгнаеньня. Асабліва павінны гэта памятаць нашы саўгасы і калектыўныя гаспадаркі.**

Нельга змаўчаць пра той дрэнны звычай, які назіраецца часам у нашых гарадох, што попелам пасыпаюць тратуары, каб ня было сьлізка. Попел трэба абавязкова замяняць пяском ці чым-небудзь іншым.

Попел, у залежнасьці ад расьліны, з якое ён атрымліваецца, мае ў сабе ад 6 да 10 проц. тленьніку калію, а попел сланэчніка нават да 30 і 40 проц. тленьніку калію ($K_2O$).

У 1926 годзе ў Солікамску вынайдзены вялікія крыніцы калійных соляй, якія дадуць мажлівасьць забясьпечыць сельскую гаспадарку нашага Саюзу бяз увозу з-за меж калійнымі ўгнаеньнямі і канчаткова паставяць на рэальную глебу пытаньне аб самым шырокім распаўсюджаньні гэтых угнаеньняў.

Зараз на месцы Солікамскіх калійных пакладаў вядзецца самая энэргічная работа па пабудове розных прамысловых прадпрыемстваў, бальшавіцкімі тэмпамі ідзе прабіваньне шахтаў для таго, каб як можна хутчэй даць с.-гаспадарцы калійныя ўгнаеньні, якія ўтрымоўваюць у сабе такую каштоўную матэрыю, якая дапамагае расьліне зьвязваць сонечны промень,—калі.

Ня гледзячы на перашкоды, ня гледзячы на тое, што прыходзілася скарыстоўваць самыя тонкія мэтоды замежнай тэхнікі, як замаражваньне шахт, каб унікнуць вады, якая для калійных соляй—гібель—першыя шахты ўжо прабіты і крышталічныя глыбы калійных парод з нетраў зямлі чалавечай дзейнасьцю прабуджаюцца для вялікай задачы—падымаць ураджайнасьць сацыялістычнай краіны.

На прыведзеным малюнку паказана будаўніцтва млыну, які будзе размолваць буйныя кавалкі солі для больш зручнага скарыстаньня яе, як угнаеньня, і для іншых мэт.

Зараз перад аграхэмікамі і аграномамі стаіць задача вывучэньня калійных угнаеньняў з боку іх дзеяньня на падвышэньне ураджайнасьці і задача азнаямленьня ўсіх калектыўных гаспадарак і бядняцка-серадняцкіх мас з уласьцівасьцямі дадзеных угнаеньняў і навуковымі дадзенымі адносна гэтых угнаеньняў.

Трэба адзначыць, што вывучэньне патрэб нашых палёў у калійных угнаеньнях яшчэ зусім недастатковае, а таму і дадзеныя не зьяўляюцца зусім пэўнымі.

Усё-ж ужо і сёньня можна часткова адказаць на пытаньне:

**які̂м чынам дзейнічаюць калійныя ўгнаеньні на паасобныя культуры, што сеюцца ў межах БССР.**



Працы Навуковага Інстытуту па ўгнаеньнях [1]) на грунце ўлічэньня ўсяго вопыту дасьледчых станцый Саюзу—даюць наступнае:

**Азіміна**. Пры норме 30—45 *кг* (2—3 п.) тленьніку калію (пераважна ў форме 30 проц. калійнай солі) ураджайнасьць падвышаецца прыблізна на 1 *ц/га* (6—7 п.) зярна і каля 2 *ц/га* (12—15 пуд.) саломы.

Найбольш мэтазгодна скарыстаньне калійных угнаеньняў у комбінацыі з фосфарнакіслымі і азоцістымі па той прычыне, што ў поўным угнаеньні калі дае столькі-ж, колькі і пры адзіночным (поўным угнаеньнем завецца такое, якое дастаўляе расьліне ўсе галоўныя неабходныя матэрыі). Апрача таго, калі знаходзіцца ў трэцім мінімуме

[1]) Удобрение и урожай, вып. VIII, 1928 г.

пасьля азоту і фосфару, якія, значыць, даюць большую прыбаўку ўраджаю, чым калі.

Можна адзначыць таксама лепшае дзеяньне калію ў раёне пясочнага Палесься (Новазыбкаўская дасьл. станцыя).

**Ярына**. Пры норме каля 135 *кгр.* (9 п.) калійнае солі ўраджайнасьць падвышаецца на 1—1,5 *ц* (8—10 пуд.) у аўса і 1,5—1,8 *ц* (10—15) у ячменя. Пры ўмове роўнасьці цэн скажам на пуд калійнай солі і пуд аўса ці ячменю ёсьць мажлівасьць бяз страт ужываць калійнае ўгнаеньне і пад гэтыя культуры. Як і пад азімымі, калі знаходзіцца тут у трэцім мінімуме пасьля азоту і фосфару, а таму яго варта ўкладаць у комбінацыі.

Адзначаецца лепшае дзеяньне калію на больш лёгкіх глебах.

**Бульба.** Пры норме каля 1,8 *ц* (12 пуд.) калійнае солі (30 проц.) сярэдняе падвышэньне ўраджаю бульбы можна адзначыць у 15 *ц* (100 пуд.). На бульбе эфэкт калійнага ўгнаеньня ня ўступае эфэкту ўгнаеньня азоцістага і нават фосфатнага, можна лічыць мэтазгодным у цэлым шэрагу выпадкаў угнаеньне бульбы толькі каліем. У залежнасьці ад недахопу азоту ці фосфару ў глебе можна калійнае ўгнаеньне комбінаваць з азоцістым ці фосфарнакіслым.

Адзначаецца большае дзеяньне калію ў раёнах болей інтэнсыўнай культуры бульбы, пры ўмове найбольш спрыяючых агульных умоў яе культуры. Пакупным калійным угнаеньням па сваім эфэкце ня ўступае попел. Павялічэньне нормы калійнай солі павялічвае ўраджайнасьць, прычым оптымальнай варта лічыць 2—2—2—3 *ц/га.*

Калійныя ўгнаеньні, як і азоцістыя, у процілегласьць фасфатам зьніжаюць процант крухмалу ў бульбінах. Гэта бывае і пры камбінацыі ўгнаеньняў (асабліва азоту з каліем), і можа дасягаць 1—2 проц.

Вельмі добра калійныя ўгнаеньні дзейнічаюць і на кармавыя караньплоды (моркаў, буракі, турнэпс і др.).

**Лён.** Пры норме ў 135 *кгр.* (9 п.) 30 проц. калійнай солі падвышэньне ўраджаю трэсты звычайна ў заходніх раёнах складае 3,0 *ц* (20 пуд.), а падвышэньне ўраджаю семені—0,6 *ц* (4 п.).

Адсюль відаць што ў тэхніцы культуры ільну калійнае ўгнаеньне павінна заняць віднае месца. Звычайна калі для ільну стаіць у другім мінімуме пасьля азоту, а таму заслугоўвае ўвагі азоціста-калійнае ўгнаеньне.

Лепшай формай калійнага ўгнаеньня зьяўляецца, мабыць, 30 проц. калійная соль у адносінах да ільну (параўнальна з каінітам і сярчанакіслым каліем).

Трэба мець на ўвазе, што лён вельмі чулы да ўгнаеньняў пры дрэнным для яго надвор'і, таму бываюць факты адмоўнага дзеяньня ўгнаеньняў на лён. З гэтым трэба лічыцца, каб пры першых спробах калійнага ўгнаеньня не ахаяць яго дарэмна.

**Лубін.** Паводле даных Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі, на пясочных землях лубіну перш за ўсё патрэбны калійныя ўгнаеньні. Калійную соль лепш за ўсё класьці ўвосень. У досьледах гэтай станцыі прыбаўка зялёнай масы ад 90 *кгр.* $K_2O$ складала да 50 *ц/га*, што варта лічыць вельмі значным. Асабліва важнае значэньне маюць калійныя ўгнаеньні пры насеннай культуры лубіну.

Пералік уплыву калійных угнаеньняў на розныя с-гаспадарчыя культуры паказвае нам, што для падвышэньня ўраджайнасьці нашых

налёў трэба лічыцца і з гэтай групай угнаеньняў. Магчымасьці ўжываньня гэтых угнаеньняў у сельскай гаспадарцы будуць бязумоўна залежаць ад цэн на іх і с.-г. прадукты. Бязумоўна, што на першым месцы па спажываньню калійных угнаеньняў будуць высоўвацца раёны заходнія і пясочныя ў нашым Саюзе, а сярод іх як адпавядаючая гэтым двум прычынам—заходнасьці і лёгкасьці сваіх глеб—БССР.

З другога боку разьвіцьцё тэхнічных культур паказвае таксама на важнае значэньне калійных угнаеньняў.

Сваячасовая пастаноўка пытаньня перад агрономіяй па БССР аб калійных угнаеньнях не зьяўляецца лішняй, а таксама не зьяўляецца і такою, якая ня можа быць вырашана.

Вырашэньне гэтай задачы дапаможа вырашэньню другой, больш шырокай задачы—падвышэньню ўраджайнасьці для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

**А. Вечар.**



Ачыстка насеньня ў калгасе

Рэдакцыя—Рэдкалегія.

## ЗЬМЕСТ

Стар.

### Быць напагатове



### Шырэй фронт калектывізацыі

# ДА ВЕДАМА

**ЧЫТАЧОЎ**
**І ПАДПІСЧЫКАЎ**
**ГАЗЭТЫ**

# „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

Кошт публікацыі ў газэце аднаго згубленага дакуманту . 50 кап.

Публікацыя аб скасаваньні шлюбу ці прапажы жывёлы ці іншай маёмасьці . . . . . . . 3 руб.

Разам з просьбай надрукаваць у газэце абвесткі аб згубленых дакумантах ці прапажы жывёлы—дасылаць у Выдавецтва „Беларуская вёска“—гор. Менск, Савецкая, 68—і грошы. Заявы бяз грошай, а таксама і адказы друкавацца ня будуць

**На адказы і высланыя квіткі прыкладваць паштовую марку на 10 кап.**

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б
„БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

ЦАНА 30 кап.

1964 г.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА на 1931 г.

НА ЧАСОПІС

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР

У 1931 г. ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“ БУДЗЕ РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.

Часопіс асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, шырока асьвятляе жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў.

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінна мець часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць часопіс „Шляхі калектывізацыі“.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА на 1931 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | 3 руб. | | |
| „ 6 мес | 1 | „ | 50 кап. |
| „ 3 „ | „ | „ | 75 „ |
| „ 1 „ | „ | „ | 25 „ |

24 НУМАРЫ ЧАСОПІСУ Ў ГОД

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

На кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў выдавецтве „Беларуская Вёска“.

АДРАС РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСУ:

г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.

Друкарня БДВ імя т. Сталіна. Заказ № 2738. 9.000 экз. Галоўлітбел № 3556.